# ПАГОНЯ

Чацвер
15 ліпеня 1999 г.
№ 44 (421)
Кошт 25.000 руб.


## Прадпрымальнік, для таго, каб не сядзець у турме заўтра, змагайся за сваю свабоду сёння!

**21 ліпеня 1999 года заканчваецца паўнамоцтвы А.Лукашэнкі, якія былі нададзены яму падманутым народам у 1994 годзе.**

Прадпрымальнікі абавязаны быць салідарнымі з патрабаваннямі тых людзей, што патрабуюць адстаўкі А.Лукашэнкі. Інакш сёння ўлада расправіцца з рабочымі і настаўнікамі, потым з усімі астатнімі. Таму 21 ліпеня абвяшчаецца аднадзённая агульнарэспубліканская акцыя грамадзянскага непадпарадкавання з мажлівым працягам. Усе рынкі Рэспублікі Беларусь спыняюць работу і прадпрымальнікі далучаюцца да акцыяў пратэсту, якія праводзяць рабочыя, пенсіянеры, інтэлігенцыя і студэнты.

Асноўныя мерапрыемствы будуць праводзіцца ў Менску. На першае верасня 1999 года прызначана агульнарэспубліканская акцыя пратэсту са спыненнем выплаты падаткаў ды іншых плацяжоў. У нас свой план дзеянняў. Мы прымусім гэтую ўладу пайсці на дэмакратычныя выбары. Толькі дэмакратычна абраныя органы ўлады будуць паважаць правы сваіх грамадзянаў і адменяць усе гэтыя бессэнсоўныя і шкодныя абмежаванні ў галіне развіцця малога і сярэдняга бізнесу.

З 20 ліпеня 1999 года пачынаюцца агульнарэспубліканскія святы, звязаныя з адпраўленнем першага прэзідэнта Рэспублікі Беларусь на заслужаны адпачынак. Грамадзяне Рэспублікі Беларусь збіраюцца ўрачыста правесці А.Лукашэнку. І чым далей, тым лепей.

**Заўвага:** на выяўленне сваёй радасці дазволу ўладаў не патрабуецца. Прыходзьце сем'ямі, не трэба памятаць крыўды, шкада («Рыгоравічу»), што паводле Канстытуцыі 1994 года так хутка скончыўся 5-гадовы тэрмін. Але нічога не зробіш - прысягу, дадзеную народу на Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь у 1994 годзе, трэба выконваць.

**Валерый Леванеўскі,**
**старшыня прафсаюза прадпрымальнікаў рэчавага рынка «Паўднёвы»**

## Праязны білет з... СССР

**Вярнуўшыся ў Гродна з працяглай камандзіроўкі, я памкнуўся набыць сабе агульны праязны білет. Але спроба выкласці 330 тысяч за маленькі кавалачак паперкі аказалася марнай. Кіяскёрка ветліва патлумачыла, што ўсе нерэалізаваныя да 10-га чысла бягучага года праязныя квіткі ўжо апрыходаваны і здадзены.**

Невялікае расследаванне выявіла, што робіцца гэта ў адпаведнасці з пастановай 33 С Міністэрства транспарту... СССР ад 14.08.1990 года. Ніяк гэтая сканалая дзяржава не адпускае сваіх былых грамадзянаў. Зусім незразумела, чаму чалавек не можа набыць праязны пасля 10-га? Летам жа, многія жыхары вяртаюцца ў горад пасля адпачынкаў і працяглых ад'ездаў. Безумоўна, асаблівай праблемы тут няма. Але вось з-за такіх дробных недарэчнасцяў і складаецца агульная неўладкаванасць нашага жыцця, адмоўны эмацыйны фон грамадства.

**Хельмут Каменскі**




**Тэмпература паветра па вобласці:**

**15 ліпеня** - пераменная воблачнасць, кароткачасовыя дажджы, навальніцы, вецер паўднёвы, паўднёва-заходні 4-6 м/с. Пры навальніцы шквальнае ўзмацненне да 15-20 м/с. Уначы +16...+18, удзень +23...+28.

**16 ліпеня** - пераменная воблачнасць, у асобных раёнах - дажджы, навальніцы,вецер заходні 4-9 м/с, уначы +11...+16, удзень +22...+27.

# Успомнім герояў Грунвальда

*«Падыміце вочы, рабы,*
*на продкаў вашых гербы.*
*Падыміце вочы, рабы,*
*на Грунвальдскія сцягі!»*
**(з песні «Грунвальдскія сцягі» беларускага народнага барда Віктара Шалкевіча)**



15 ліпеня 1410 года аб'яднаныя войскі Вялікага княства Літоўскага і Кароны Польскай перамаглі на Грунвальдскім полі магутны Тэўтонскі ордэн. Гэтая лёсавырашальная перамога ўвайшла ў гісторыю Беларусі як выбітны прыклад вайсковага майстэрства і надзвычайнай мужнасці беларускіх вояроў.

«У год ад пачатку свету 6921, а ад Божага нараджэння 1410 пачалася вайна караля Польскага Уладзіслава Ягайлы і брата яго нагага Вялікага князя літоўскага Вітаўта з немцамі прускімі. І сабралі яны разам войскі вялікія з абодвух бакоў. З аднаго боку, кароль Ягайла з усёю моцаю Кароны Польскае, а князь вялікі Вітаўт з усімі сіламі літоўскімі і рускімі і са шматлікімі татарамі ардынскімі. А з другога боку магістар прускі са сваімі сіламі і з усёю сілаю нямецкаю. І калі войскі з абодвух бакоў былі гатовыя, кароль Ягайла і вялікі князь Вітаўт пайшлі на бітву ўсімі благімі дарогамі, а поля роўнага ды шырокага, дзе маглі для бітвы спыніцца, не знаходзілі, бо палі роўныя ды вялікія былі толькі пад местам нямецкім Дуброўнай». Так сціпла пачынаецца аповед пра сечу пад Дуброўнай у «Хроніцы Быхаўца».

Гісторыя цікавая і не вельмі, далёкая і блізкая, часцей за ўсё забытая. Час імкліва нясе Беларусь у нейкую светлую будучыню, пакідаючы ззаду сівыя, пакрытыя імхом стагоддзі. А разам з імі дзяржавы, гарады, цэлыя культуры. Не кажучы ўжо пра чалавечыя лёсы...

... 1410 год, спякотнае лета, Гародня, Каложа над Нёманам. Шматпакутная беларуская зямля збірае сваіх вояроў у паход. Якім ён будзе, ніхто тады яшчэ не ведаў. Разумелі адзінае, што зямля, якая корміць сваім хлебам, спаталяе смагу вадою са сваіх крыніцаў, не можа сама сябе абараніць. Гэта святая справа тых, хто есць хлеб гэтай зямлі, п'е яе ваду. Гарадзенцаў, навагардцаў, лідчукоў, харугвы з Ваўкавыску, Крэва, Берасця, Менску і многіх іншых мястэчак Бацькаўшчыны сабрала ля Святой Каложы Пагоня. Яны стаялі на гэтых пагорках, на галовах у іх былі жалезныя шаломы, рукі ў жалезных наручах, грудзі і шырокія плечы пакрытыя жалезнымі латамі. Сонца зіхацела, адбіваючыся ў бляску жалеза. Жалезныя людзі з жалезнай верай. Верай у перамогу. Таму што вёў іх у паход жалезны князь Вітаўт. Вёў на тэўтонаў, на нямецкіх сабак-рыцараў, каб паставіць апошнюю кропку ў амаль 200-гадовым здзеку над беларускай зямлёй.

Быць ці не быць, зваца людзьмі ці ператварыцца, як прусы, у легенду. Яны пайшлі і паклалі на поле пад Дуброўнай цвет еўрапейскага рыцарства. Вярнуліся з перамогай, і ніводзін прускі бот 500 гадоў не ступаў на нашую зямлю.

Ці ведаем мы бітву пад Дуброўнай? Палякі памятаюць і шануюць Грунвальд, кожны летувіскі школяр ведае, што Жальгірыс ёсць слынная перамога летувіскіх вояроў. А мы, беларусы, святкуем 23 лютага, 7 лістапада, ганарымся чужымі перамогамі над сабою, услаўляем Суворава, Пятра Першага. І забываемся на Вітаўта, Астрожскага, Хадкевіча, Касцюшку, Каліноўскага...

Ушануйма жа годную памяць лепшых сыноў Беларусі, што паклалі свае галовы за Волю, Незалежнасць нашае Бацькаўшчыны! Заклікаем усіх, хто носіць у сэрцы гэтую перамогу, ускласці кветкі да «Пагоні на Грунвальд». Адзінага на Беларусі помніка, прысвечанага славутай бітве. А ўвечары ўзнімем келіх з віном за Беларускую Нацыю, Пагоню і бел-чырвона-белы сцяг!

**Эдвард Дзьмухоўскі**

# Як гэбісты затрымалі АМАПаўцаў

Апоўначы сёмага ліпеня, як і кожны іншы вечар, па вуліцы Савецкай абласнога цэнтра рабіла дзяжурны аб'езд патрульная машына міліцыі. Гэтым разам пакой грамадзян ахоўвалі АМАПаўцы - сяржанты Сянько, Гусеў і Няфёдаў. На скрыжаванні Савецкай і Кастрычніцкай руху машыны сталі перашкаджаць два нецвярозых чалавека «па-за межамі пешаходнага пераходу». АМАПаўцы папрасілі невядомых грамадзян адысці, нават «неадночы вымавілі словы «калі ласка». Аднак грамадзяне міліцыянтаў не паслухаліся, а пачалі «выказваць у іхні адрас нецэнзурный лаянкай» і пагражаць расправай. Тады АМАП вышаў з машыны і «з дапамогай няззначнай фізічнай сілы» а таксама спецсродка БР (расшыфроўка абрэвіятуры нам невядома - **заўвага рэдактара**), а потым завёз іх для асведчання на наяўнасць ап'янення.

Адзін з затрыманых падчас агляду паводзіў сябе спакойна, нават замкнёна. Другі балбатаў і мітусіўся, яго гаворка была «моцна змазана». Абодва хісталіся, ад абодвух несла перагарам. Урачу-нарколагу заявілі, што выпілі па пляшцы піва. Аналізы здаваць не пагадзіліся.

Даволі агрэсіўна, адпаведна сведчанням відавочцаў, затрыманыя паводзілі сябе і ў дзяжурнай частцы Ленінскага РАУС. Там яны таксама пагражалі ўдзельнікам затрымання ўсялякімі карамі, аж да звальнення іх з органаў міліцыі.

Што ж гэта за «круцізна» сама напрасілася ў міліцэйскі нерат?

Крутымі аказаліся супрацоўнікі гарадзенскага КГБ Ігар Б. і Валерый В., лейтэнант і старшы лейтэнант дзяржбяспекі. Прычыны іхняга ўчынку пакуль не высветлены. Магчыма, у момант алкагольнай эйфарыі ім падалося, што ўвесь свет ляжыць пад іхнімі нагамі, і яны могуць зрабіць з ім усё, што захочуць - гэткія рыцары з гарачай крывёю і халодным сэрцам.

Што на самой справе кіравала нашчадкамі «жалезнага Фелікса», мы спадзяемся даведацца пасля таго, як у Камітэце дзяржбяспекі будзе праведзена службовае расследаванне, якое расставіць усё кропкі над «і».

**Сяргей Самасей**




## Канфіскавалі сем кілаграмаў ртуці

**Праваахоўныя органы канфіскавалі ў жыхара горада Скідаль Гродзенскага раёна сем кілаграмаў ртуці і 14 кантэйнераў з радыёактыўнымі рэчывамі. Узбуджана крымінальная справа.**

Гэта не першы выпадак, калі на Гарадзеншчыне знаходзяць ртуць. У сакавіку гэтага года ў пасёлку Вяршлішкі Гарадзенскага раёна ў сценах двух кватэр была выяўлена вялікая колькасць ртуці. Яе ўтрыманне ў паветры перавышала норму у чатыры разы. Ад пароў ртуці пацярпелі жыхары, якіх часова адсялілі.

Спецыялісты штаба грамадзянскай абароны выказваюць розныя меркаванні наконт з'яўлення небяспечных рэчываў. На іх думку, у часы СССР Гарадзеншчына была шчыльна насычана ваеннымі базамі, пры ліквідацыі якіх раскрадалася ўсё, што траплялa пад руку — у тым ліку, шкодныя рэчывы.

**Антон Лабовіч**

## Выстава ў Гудзевічах

У Гудзевіцкім літаратурна-краязнаўчым музеі адкрылася чарговая выстава. Гэтым разам на ёй прадстаўлены карціны знакамітага мастака Дзмітрыя Іваноўскага. Іваноўскі - уражэнец гэтых мясцінаў. Нягледзячы на тое, што ён не мае спецыяльнай адукацыі, наладжваў свае выставы ў Лондане, Парыжы, чатыры разы выстаўляўся ў Варшаве. У Гудзевічах гэта яго трэцяя выстава. Адначасова мастак выстаўляе частку сваіх палотнаў на адной з застаў Гарадзенскага памежнага атрада.

## Лісічкі набываюць вартасць

У сувязі с сухім надвор'ем змяншаецца ў лясах колькасць грыбоў. Нягледзячы на «ўпарадкаванне» (адпаведна ўказу прэзідэнта) іх нарыхтоўкі, камерсанты праводзяць закупы лісічак. Аднак змяншэнне іх колькасці рэзка падвысіла кошт грыбоў. Калі тыдзень таму за кілаграм лісічак перакупшчыкі плацілі паўмільёна рублёў, то зараз удвая болей.

**Антон Макей**

## Дзень вызвалення Гродна

**Увесь уікэнд у Гродне будуць праходзіць святочныя мерапрыемствы, прысвечаныя 55-ай гадавіне вызвалення Гродна.**

16 ліпеня, у афіцыйны Дзень вызвалення, адбудзецца ўскладанне кветак да месцаў пахаванняў і ўшанаванне памяці загінуўшых.

У суботу і нядзелю галоўныя імпрэзы адбудуцца ў гарадскім парку імя Жылібера. 17 ліпеня плануецца Дзень сямейнага адпачынку, які працягнецца з 12 да 20 гадзін. У 12-13 гадзін - дзіцячая гульнёвая праграма «Вясёлыя старты», у 13-14 - гульні для дзяцей і дарослых. З 14 да 16 гадзін пройдзе конкурс танца «Гарадзенскія жартаўлівыя забавы». Затым краязнаўцы запрашаюцца на віктарыну «Ці ведаеш ты наш парк?». Напрыканцы дня - моладзевая дыскатэка.

18 ліпеня ў гарпарку пройдуць народныя гулянні. Напачатку - канцэрты самадзейных калектываў. З 14 гадзін - гульнёвая забаўляльная праграма «Квадрат удачы». У 18.00 на свой канцэрт запрашае лаўрэат «Зорнай ростані» Аляксандар Зявровіч. З 18 да 20 гадзін - моладзевая дыскатэка.

Для тых, хто палянуецца ў спякоту цягнуцца ў цэнтр горада, запланаваныя святы мікрараёнаў. У суботу - у лесапарку «Румлёва», у нядзелю - на стадыёне ля СШ N14 для жыхароў вуліцы Болдзіна і Праспекта будаўнікоў.

Аматары дакладных датаў могуць адзначыць дзень вызвалення 24 ліпеня. У гэты дзень быў вызвалены ўвесь горад разам з занёманскай часткай, якая знаходзілася пад акупацыяй даўжэй за ўсіх.

**Алена Сіневіч**



ПАЛІТЫЧНАЯ СЦЭНА

# «Отвести народ от пропасти»

**Назва гэтага артыкула дакладна адпавядае назве тэзісаў праграмы кандыдата ў прэзідэнты Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі**




**Заканчэнне. Пачатак у № 42 (419)**

## 6. «Правовой беспредел»

«Карупцыя - гэта пагроза і палітычнай, і эканамічнай бяспецы дзяржавы... Гэта тормаз на шляху станаўлення прававой сацыяльнай дзяржавы, эфектыўнага развіцця вытворчасці», - чытаем у праграмных тэзісах кандыдата ў прэзідэнты А.Лукашэнкі.

Аднак усур'ёз казаць пра барацьбу з карупцыяй не даводзіцца. Як ужо адзначалася, галоўныя кебічаўскія карупцыянеры ўвайшлі ў склад урада. Яны сталі апорай кіраўніка дзяржавы, гэта значыць чалавека, які іх неаднаразова публічна выкрываў. Ды і сама сістэма ўлады, створаная прэзідэнтам, спарадзіла шырокамаштабную карупцыю ў шэрагах «вертыкальных» чыноўнікаў, падаткавікоў, кантралёраў, мытнікаў, супрацоўнікаў праваахоўных органаў, пра якую ў былыя часы не магло весціся і гаворкі. І толькі зараз пачалося нясмелае выкрыццё хабарнікаў, але не тых - кебічаўскіх, а сваіх - узрошчаных на таталітарнай глебе.

Не варта казаць і пра тое, што прэзідэнцкая адміністрацыя з дазволу «гаспадара» незаконна, у абход парламента і ўрада «прыхватызавала» значную частку дзяржаўнай уласнасці і распараджаецца ёю ў залежнасці ад акалічнасцяў. Гэтага зноў-такі не дазваляў сабе Кебіч. Палацавую ўласнасць некалі меў толькі цар і шматлікія спадкаемцы царскай дынастыі, што ўнаследавалі яе ад сваіх папярэднікаў.

Пасля рэферэндума прэзідэнт займеў неабмежаваную ўладу і пачаў актыўна дзейнічаць: прызначаць парламентарыяў і міністраў, пракурораў і суддзяў, «вертыкальных» кіраўнікоў, рэдактараў афіцыйных СМІ і нават дырэктара Камароўскага рынка. Усе яны зараз ад яго залежныя і яму падсправаздачныя. Упартым і непаслухмяным часам нагадваюць *пра кайданкі*, і *прыклад В.Леонава* з'яўляецца для іх рэальным папярэджаннем... Служыце, маўляў, спраўна, інакш на нары шлях блізкі.

Але ўсё-ткі галоўнае вастрыё прэзідэнцкай волі скіравана на здушэнне рэшткаў дэмакратыі і вольнадумства, навязванне страху і пакоры грамадзянам, вытручванне з іх душаў нацыянальнай самасвядомасці і самапавагі. Праз некалькі месяцаў пасля рэферэндума з'явіўся Дэкрэт N5. Ён прадугледжваў драконаўскія меры пакарання за ўдзел у несанкцыянаваных сходах, пікетах, мітынгах, дэманстрацыях і любых іншых масавых мерапрыемствах. «Асалоду» гэтага антыправавога дэкрэта зведалі на сабе тысячы беларускіх грамадзянаў, па чыіх спінах гулялі міліцэйскія дубінкі, што нагадвалі пра «святасць і бясхібнасць» прэзідэнцкай улады. Пад ударамі дубінак «загаварыў» нават глуханямы, які выгукаў (як сведчылі міліцэйскія пратаколы) антыпрэзідэнцкія лозунгі.

Пад удары дубінак, затрыманні, арышты трапляюць людзі розных узростаў і званняў: маладыя і ветэраны, рабочыя і прафесары, афіцэры і дэпутаты, і нават жанчыны. Дыктатура ўсёедная, б'е наводмаш, не зважаючы на асобы. Капітана другога рангу, пенсіянера і дэпутата В.Шчукіна лукашэнкаўская Феміда «ўзнагародзіла» штрафам у дзесяткі мільёнаў ды шматлікімі «адсідкамі». Ён зведаў на сабе сілу ўдараў міліцэйскіх дубінак і стаў свайго роду пакутнікам, які добраахвотна ішоў на Галгофу.

Беларусь ператварылася ў цэнтры Еўропы ў паліцэйскую дзяржаву, дзе збіваюць, арыштоўваюць і саджаюць у турму. Дэпутатаў - за іх вернасць сваім выбаршчыкам і адмову ад рабалепства перад рэжымам. Палітыкаў - за прыхільнасць уласным ідэалам, поглядам і мэтам, паслядоўную абарону нацыянальных інтарэсаў дзяржавы і народа, выкрыццё антынароднай існасці кіруючага рэжыму. Журналістаў - за іх праўдзівае адлюстраванне ў друку фактаў беларускай рэчаіснасці, шчырае памкненне дапамагчы народу ўсвядоміць вытокі і прычыны яго гаротнага становішча. Юнакоў - за іх максімалізм, легкадумнае свавольства, патрыятычныя і антыдыктатарскія надпісы на сценах дамоў і агароджах.

*Беларусь ператварылася* ў велізарны канцлагер з адкрытай на Усход брамай, дзе парушаюцца элементарныя правы і свабоды грамадзянаў, фальсіфікуюцца вынікі выбараў і рэферэндумаў, звальняюцца з працы і выганяюцца з бальніц людзі за адмову ад галасавання. Дзе пануе тэлефоннае права, а тыя, хто абвінавачваецца, без рашэння суда на працягу некалькіх гадоў утрымліваюцца ў турэмных камерах. Дзе бясследна знікаюць людзі, а дзесяткі патрыётаў, ратуючыся ад пераследаў рэжыму, шукаюць палітычнага прытулку ў іншых краінах. Дзе ўлада адмежавалася ад народа вялізным бюракратычным апаратам і шматлікай колькасцю сілавых структураў, што ў некалькі разоў перавышае разумныя межы.

## 7. Знешнепалітычны параліч

Відавочны збой дала не толькі ўнутраная, *але і знешняя палітыка першага* беларускага прэзідэнта. Не той народ дастаўся яму ўнутры краіны і не тое палітычнае атачэнне ў міжнародным маштабе. Не зразумелі кіраўніка нашай дзяржавы сусветныя палітыкі. А ён жа пераконваў, даказваў, растлумачваў, аб'ездзіў Захад, Усход і Поўдзень. І ўсё роўна не зразумелі...

Ды і як зразумець чалавека, што парушыў Канстытуцыю, на якой прысягаў, што ўсталяваў дыктатуру над уласным народам, які абраў яго кіраўніком дзяржавы? Як зразумець чалавека, які сцвярджае, што свой народ за цывілізаваным светам ён не павядзе? Калі не пойдзем наперад - у цывілізацыю, значыць вернемся назад, у варварства ці дзікунства. Іншых шляхоў чалавецтва не ведае. Як зразумець, урэшце, чалавека, які адкрыта ўсхваляе Гітлера і яго парадкі, калі чалавецтва даўно асудзіла ашалелага фюрэра і пракляло яго д'ябальскія парадкі і злачынствы? Менавіта ў дзіўных паводзінах нашага кіраўніка трэба шукаць прычыны яго ізаляцыі ў цывілізаваным свеце, а не ў злых падкопах імперыялістычных сілаў і NATOўскай ваеншчыны, як пра гэта часцяком трубяць афіцыйныя прапагандысты.




Першапачаткова прэзідэнт спрабаваў наладзіць некаторыя кантакты з Захадам. Аднак апасля неўтаймаваная рыторыка, няўклюдныя дзеянні і неадэкватныя рашэнні зводзілі ўсе дамоўленасці да нуля. Паездкі за мяжу часта заканчваліся канфузамі, самы вялікі з якіх адбыўся летам мінулага года ў Швейцарыі (г.Кран-Мантана). Дорага каштавалі беларускаму народу марныя вояжы прэзідэнта за мяжу. Краіна не атрымала ні ўзбекскай бавоўны, ні казахскага зерня, ні значных пакістанскіх заказаў на беларускія трактары, ні арабскіх заказаў на сельгасмашыны. Не набыла Беларусь і надзейных рынкаў для збыту сваёй прадукцыі. Штогод знешнегандлёвы баланс рэспублікі зводзіцца з больш як мільярдным дэфіцытам у даляравым вылічэнні. Гэта страшэннае марнатраўства, велізарныя страты народнага багацця.

Злуючы на няўдачы знешняй палітыкі, беларускі прэзідэнт пайшоў ва-банк. Увесну 1998 года ён абвясціў «каналізацыйную» вайну Захаду і пачаў высяленне дыпламатаў з іх рэзідэнцыяў у комплексе Дразды пад Менскам. Падобных дзеянняў не ўжывалі ў свой час ні Гітлер, ні Сталін, не кажучы ўжо пра больш дробных дыктатараў. Наш кіраўнік пайшоў на гэта і пралічыўся, апынуўся ў поўнай ізаляцыі ад Заходняга свету. Зараз Беларусі давядзецца кампенсаваць мільённыя сумы ў валюце, выдаткаваныя замежнымі амбасадамі на абсталяванне былых рэзідэнцыяў. А гэта для беднай краіны немалыя сродкі.

Нерацыянальная ўнутраная і знешняя палітыка беларускага кіраўніцтва адштурхнула ад краіны замежных інвестараў. У выніку Беларусь страціла за апошнія гады мільярды даляраў у выглядзе крэдытаў і прамых капіталаўкладанняў у разнастайныя галіны нашай эканомікі. Беспадстаўна і груба, паводле надуманых матываў, былі выгнаны з краіны прадстаўнікі фонду Сораса, які бязвыплатна фінансаваў шматлікія праекты ў галіне адукацыі, навукі і культуры. Значна скарацілася гуманітарная дапамога еўрапейскіх краінаў шматпакутнаму народу Беларусі.

*Не ладзяцца ў кіраўніка дзяржавы* і ўзаемаадносіны з краінамі СНД, што відавочна выявілася ў іх ацэнках падзеяў у Югаславіі. Толькі з кіраўніцтвам Расіі Лукашэнка спрабуе неяк ладзіць. Ды і то цаною здрады нацыянальным інтарэсам уласнай краіны і яе народа.

## 8. Крызіс рэжыму

Элементы крызісу рэжыму выявіліся ў хуткім часе пасля яго ўсталявання. Яны выліваліся ў адстаўкі, звальненні. А потым і ў арышты міністраў, пракурораў, банкіраў, «ператрахивание» рэдактараў падкантрольных газет і «вертыкальных» чыноўнікаў. Найбольшага накалу крызіс улады дасягаў у перыяд разгону парламенту і масавага збіцця грамадзянаў, якія адважваліся пратэставаць супраць галечы, бяспраўя, здрады нацыянальным інтарэсам Беларусі. Вясною гэтага года распачаўся зацяжны палітычны крызіс рэжыму, выкліканы набліжэннем заканчэння тэрміну яго легітымнасці ды арганізаванымі апазіцыяй выбарамі прэзідэнта. Крызіс, відаць, працягнецца доўга і будзе набываць усё больш востры характар.

Эканамічны крызіс таксама наносіць непапраўны ўдар па рэжыму. За пяць гадоў прэзідэнцкая ўлада не вырашыла ніводнай эканамічнай праблемы. У выніку эканоміка дэградуе, фінансы разладжаны, інфляцыя буяніць, а інвестыцыі адсутнічаюць. Улада адчувае вострую патрэбу ў замежнай валюце і не можа звесці канцы з канцамі. Курс валюты з восені мінулага года ўзрос у некалькі разоў і дасягнуў астранамічнай лічбы ў 450 тысяч рублёў за адзін даляр (4 500 000 з улікам дэнамінацыі). Не менш вострым з'яўляецца і крызіс сацыяльны, які падточвае сам падмурак рэжыму. То тут, то там узнікаюць стачкі, бастуюць шахцёры, трактарабудаўнікі, камунальнікі, прадпрымальнікі... Давер да прэзідэнцкай улады знікае на вачах, і ніякія заклінанні камісараў не здольныя яго спыніць. Галеча і бязвыхаднасць мацней за ўсялякія пераконванні аказваюць ціск на псіхіку чалавека. Ён расчароўваецца ў існуючай уладзе, яе кіраўніках, страчвае давер і спадзевы на яе.

На працягу многіх гадоў краіну скаланае эканамічны крызіс. Да Чарнобыльскай трагедыі дадалася прыродная стыхія: бураны, паводкі, засухі, пажары, якія з-за адсутнасці сродкаў рэжым адолець не можа. А раскол у грамадстве і знешнепалітычная ізаляцыя пагаршаюць становішча. Прэзідэнт нервуецца, мітусіцца, абнадзейвае, абяцае нейкія зрухі да лепшага ўвосень. Адначасова рэпрэсуе нязгодных і мужных людзей, патрыётаў сваёй Айчыны. Ставіць рагаціны палітычным партыям, прафсаюзным, моладзевым ды іншым грамадскім арганізацыям, камерцыйным структурам. Здушае народную ініцыятыву і прадпрымальніцтва. Аднак сілавыя дзеянні выклікаюць процідзеянні. Гэта заканамерна не толькі ў механіцы, але і ў грамадскім жыцці. Чым больш моцна прэзідэнт «закручвае гайкі», тым мацней супраціўленне сіл, якія яму процідзейнічаюць. Супраціўляецца не толькі вузкі клас палітычнай апазіцыі, але і добрая палова грамадства, незадаволеная сваім жабрацкім існаваннем. Супраціўляецца заціснутая ў ціскі эканоміка, што амаль не рэагуе на валюнтарысцкія метады кіраўніцтва. Супраціўляецца русіфікацыі нацыянальнай культура, якая не знаходзіць шляхоў для свайго развіцця. Урэшце, супраціўляецца, дэградуе, вымірае грамадства ў цэлым, апанаванае бязвыхаднасцю, апатыяй, алкагалізмам і наркаманіяй.

Крызіс спарадзіла сама ўлада, што загнала сябе і грамадства ў тупік, выйсця з якога не бачыць. Апрача як прадацца Расіі і назаўжды знікнуць з палітычнай сцэны. Але гэта ўжо не палітыка, а самазабойства. Гінуць разам з рэжымам беларуская нацыя ўсё-ткі не збіраецца. Яна пакутуе ў канвульсіях, балансуе над безданню, але ўпіраецца, каб не зваліцца, не патануць. Яна што ёсць моцы змагаецца за жыццё. Каб выжыць, выстаяць, атрымаць перамогу.

## 9. Каму гэта патрэбна?

Абранне А.Лукашэнкі першым беларускім прэзідэнтам дало яму ўнікальны гістарычны шанец стаць бацькам нацыі, выразнікам яе памкненняў і мрояў, заснавальнікам сапраўды суверэннай, міралюбівай і нейтральнай беларускай дзяржавы. Ён мог заняць у беларускай гісторыі месца, падобнае Т.Масарыку ў Чэхаславакіі або Ю.Пілсудскаму ў Польшчы. Але ён не зразумеў сваёй ролі, не ўсвядоміў унікальнасці і велічы моманту. Таму не згуртаваў, а раскалоў нацыю. Не скансалідаваў, а разбэсціў грамадства. Не рэфармаваў, а разбурыў эканоміку. Не ўмацаваў, а расхістаў дзяржаву, і яна апынулася на мяжы знікнення. У гэтым заключаецца трагедыя беларускай нацыі і яе дзяржаўнасці. У гэтым трагедыя 10-мільённага народа, працавітага і пісьменнага, разумнага і добрасумленнага, не занадта даверлівага і рахманага.

Замест нацыянальна-дзяржаўнага будаўніцтва, адраджэння эканомікі, навукі, культуры, павышэння жыццёвага ўзроўня сваіх грамадзянаў, прэзідэнт захапіўся славянафільствам, гэтай разнастайнасцю сучаснага расізму, дакладней славянскага нацызму і спрабуе супрацьпаставіць яго ўсёй цывілізаванай Еўропе. Прычым, пад славянскім яднаннем маецца на ўвазе аб'яднанне трох усходніх славянскіх народаў, да якіх павінны падключыцца і сербы. У той жа час каля дзесятка славянскіх нацый, што нібыта прадаліся NATO, з гэтай еднасці выключаецца. Яны быццам бы расславяніліся, ператварыліся ў нейкіх варвараў-пустэльнікаў. Адбіліся ад славянскага статку, заблыталіся ў нетрах еўрапейскай цывілізацыі. А гэта ў разуменні славянафілаў велізарнае зло. Бо славяне павінны ўвесь час з нечым ці з некім змагацца, а не спакушацца жыццёвымі выгодамі ды адчуваць асалоду ад д'ябальскага камфорту і раскошы.

Але навошта ўсё гэта патрэбна беларускамиу народу і ягонаму прэзідэнту? Чаму ён так «любіць» усходніх і ненавідзіць заходніх і паўднёвых славянаў? Што дасць нам яднанне ўсходніх славянаў, ці зажывем мы лепей, багацей і радасней? Шматвекавы досвед запэўнівае ў адваротным: не зажывем, не разбагацеем, не разняволімся!

Мы ўжо сотні гадоў жылі разам, цягнулі прыгонніцкую лямку, жабравалі і галадалі. Змагаліся і паміралі, гнілі ў сутарэннях шматлікіх лубянак. Замярзалі ў сібірскай тайзе, якуцкіх і магаданскіх каменяломнях. Мы, еўрапейская нацыя, адсталі матэрыяльна і маральна ад іншых народаў кантынента на стагоддзе. Нарэшце, вызваліліся, акрыялі. А нас зноў гоняць у камуналку, у агульную казарму. У былую «турму народаў». За што такая няміласць лёсу? Навошта ўсё гэта? Няўжо толькі для таго, каб наш кіраўнік змяніў кабінет і перасеў у крамлёўскае крэсла? Ці не занадта дарагі кошт за такое перамяшчэнне аднаго чалавека? Усім нам варта моцна задумацца над гэтымі жыццёва важнымі пытаннямі. Устаць на ногі, атрэсціся і сказаць «не» палітыцы жабрацтва, гібення і здрады. Палітыцы нянавісці да еўрапейскіх народаў, палітыцы крывадушша, фальшы і безразважнасці!

**М.Жвір,**
**г.Гродна**



# Тропікі наступаюць!

**Пасля вільготнай халоднай зімы доўгачаканыя промні сонца выманьваюць людзей на вуліцы, у паркі, на пляжы. Але калі тыя ж промні пачынаюць плавіць асфальт і сляпіць вочы - кожны шукае паратунку ад спякоты, як можа.**

## Самае чыстае - возера Белае

Лета ў гэтым годзе стане, напэўна, выключэннем з шэрагу звычайных летаў, калі «ні мокра - ні суха, ні холадна - ні горача». Паводле дадзеных гарадскога гідраметцэнтра, сёлета тэмпература наблізілася да абсалютных максімумаў, зарэгістраваных за апошнія 90 гадоў. Пятага - сёмага ліпеня градуснікі паказвалі +32...+33. У Гродне тэмпературны рэкорд быў пастаўлены ў 1904 годзе (+36). У Ашмянах і Лідзе максімум быў зарэгістраваны ў 1994 годзе (+34). Адпаведна прагнозам сіноптыкаў, спякота захаваецца і надалей.

Градуснікам што - паказвай сабе розныя лічбы, нават самыя неверагодныя, ды і ўсё. Народу цяжэй - нават у гарачыню трэба на працу хадзіць. Асабліва пакутуюць супрацоўнікі афіцыйных установаў, вымушаныя ў любое надвор'е быць пры касцюме і гальштуку. Жанчыны ж не прапусцілі цудоўнай магчымасці скарыстаць пляжную моду ў горадзе. Красуні выдатна сябе адчуваюць у сукенках, дужа падобных на каляровую бялізну. А што - просценька і зручна.

Пляжы, нават стыхійныя, якіх большасць у нашым горадзе, перапоўненыя. У ход пайшло ўсё: Зялёнка (кар'ер за вул.Камарова), Румлёва, Пышкі, Юбілейнае.

Паводле дадзеных гарадскога цэнтра гігіены і эпідэміялогіі, на Нёмане, Юбілейным, у Азёрах, забаронены на купанне няма. Аднак, як адзначыў загадчык камунальнай службы Міхаіл Верабей, узровень знаходжання кішэчных палачак у вадзе высакаваты. Эпідэміялагічнай небяспекі няма, таму што кішэчная палачка лічыцца ўмоўна патагенным мікраарганізмам. А самым чыстым вадаёмам пабліzу горада, згодна са звесткамі Цэнтра гігіены і эпідэміялогіі, з'яўляецца возера Белае, у прыватнасці, побач з летнікамі «Вяснянка» і «Азёрны».

## Беларускае эльніньё

Працяглая гарачыня, празмерная сонечная радыяцыя ствараюць небяспеку для здароўя людзей. Да таго ж, жыхары Беларусі не прызвычаеныя да спякоты, асабліва ў спалучэнні высокай вільготнасці. Ствараецца эфект парылкі, што пераносіцца арганізмам значна цяжэй, чым спёка ў пустыні ці стэпе.

Ёсць некалькі катэгорыяў людзей, якім у гарачае надвор'е даводзіцца асабліва цяжка. Гэта асобы з хворым сэрцам, гіпертонікі, з парушэннем мазгавога крывазвароту, мігрэнямі, цяжарныя жанчыны, людзі з залішняй вагою. Яны могуць страціць прытомнасць на прыпынку, у транспарце, нават не атрымаўшы «паўнавартаснага» сонечнага ўдару. Ёсць дзве асноўныя прычыны гэтага.

1.Перапады атмасфернага ціску. Пры набліжэнні навальніцы ці проста зніжэнні атмасфернага ціску людзі з сасудзістай дыстаніяй адчуваюць боль у мышцах, ламату ў касцях, галаўны боль, агульную разбітасць. У такіх выпадках цяжка аказаць непасрэдную дапамогу.

2. Пераграванне цела. У закрытым шчыльным цёмным адзенні лішняя цяпло не аддзяляецца ў паветра. Можа здарыцца цеплавы ўдар. Яго першыя прыкметы: млявасць, павышанае потаадздзяленне, галавакружэнне, пацямненне ў вачах, цяжкасці з дыханнем. Калі своечасова не дапамагчы - чалавек можа самлець.

Першая дапамога: як найхутчэй перайсці ў цень, яшчэ лепей - прылегчы. Абцерціся халоднай вадою, папіць. Ці зрабіць тое ж самае самлеламу чалавеку.

## Што раяць дактары

Каб неяк палегчыць сабе існаванне падчас невыноснай спякоты, лепш за ўсё перайсці, калі гэта магчыма, на рэжым існавання трапічных краін. Гэта значыць - стварыць сабе сіесту прыкладна з 13 да 17 гадзін. Для актыўнай працы адводзяцца ранішнія і вечаровыя гадзіны.

Асобная размова пра гастранамічны бок справы. Есці можна ўсё, але асабліва важна ў гэтую пару не пераядаць. У спалучэнні са спякотай перапоўнены страўнік можа падвесці, адправіўшы абед, прабачце, назад. Трэба няшмат піць (1,5-2 літры вадкасці ў дзень), але часта. Лепш ужываць не звычайную ваду, а мінеральную. Іоны соляў звязваюць вадкасць у арганізме - гэтым дасягаецца эфект спатолення смагі. Добра зарэкамендаваў сябе халодны чай з дабаўкамі сокаў. Вандроўнікі па спякотных краінах сцвярджаюць, што ў гарачыню выдатна асвяжаюць сокі з лімона, апельсіна, ананаса, грэйпфрута. Наогул, вельмі добра ўжываць усё кіслае, нават так званы ліманад: звычайная вада з дolькай цытрыны і лыжачкай мёду.

## Асцярожна, дзеці

Асабліва небяспечным з'яўляецца доўгае знаходжанне на сонцы дзяцей. Час пападання прамых сонечных промняў напачатку павінен абмяжоўвацца хвілінамі. Няхай дзеці бавяцца ў цяньку і часцей купаюцца ў нехалоднай вадзе. У адваротным выпадку дзіця нібыта без знешніх прычынаў можа злегчы з тэмпературай і гарачкай. Першыя прыкметы небяспекі - гарачая скура, далонькі і ступні, частыя просьбы папіць, млявасць. Лепшае адзенне для малога ўлетку - бавaўняныя, ільняныя гарнітурчыкі і панама.

У разгары час адпачынкаў. Спадзяемся, нашыя парады дапамогуць вам адпачыць удала, карысна і без прыкрых недарэчнасцяў.

**Працяг на стар. 8**

**Алена Сіневіч**



# Каму патрэбна Каложа?

**Высокі стромы адхон, муры дванаццатага стагодзьдзя, «Пагоня на Грунвальд»... Дадаць яшчэ выдратаваную траву, гурбы сьмецьця ды пустыя бутэлькі з-пад гарэлкі ці піва - і кожны гарадзенец пазнае знакамітую Каложу...**

Да Каложы прыходзяць людзі рознага веку: на Нёман паглядзець, паветрам чыстым падыхаць...ці проста выпіць ля царквы паводле старой савецкай завядзёнкі. Выпіць - то вып'юць, а вось сьмецьця пасьля сябе не пакінуць ня могуць: няма сьметніцаў. Вось і ляцяць на сьвятую зямлю косьці, бутэлькі, бляшанкі...

А куды ж яшчэ, калі на нёманскім узьбярэжжы, ні ля Барысаглебскае царквы, ні ў Новым парку няма аніводнае сьметніцы?

А што ж улады? А ўлады нічога ня ведаюць. Ды й вялікае ахвоты ведаць ня маюць.

9 ліпеня я надумаў высьветліць, хто ж клапоціцца пра чысьціню ля Барысаглебскае царквы, і накіраваўся ў аблвыканкам. Адтуль мяне паслалі...у Адміністрацыю Ленінскага раёна. А ўжо ў Адміністрацыі мне параілі зьвярнуцца ў ВА ЖКГ (Вытворчае аб'яднаньне жыльлёва-камунальнай гаспадаркі) Гарадзенскага гарвыканкама. Да сп. У.Іванова, выканаўцы абавязкаў намесьніка дырэктара аб'яднаньня.

Я зьвярнуўся. Толькі спадар Іваноў, пачуўшы, што я з ПАГОНІ, адмовіўся размаўляць са мной, бо «по президентскому указу информацию для неформальных газет официальные учреждения предоставлять не должны». Калега сп. Іванова параіў мне зьвярнуцца да Ю.Арцем'ева, дырэктара ВА ЖКГ, які на той момант на месцы працы адсутнічаў.

Пазьней я ўсё-ткі датэлефанаваўся да дырэктара. Мне адказаў нейкі мужчына, які на прозьбу паклікаць да тэлефона дырэктара насьцярожана спытаў:

- А кто его спрашивает?

- Валеры Руселік, карэспандэнт газэты ПАГОНЯ.

- А он уехал, - пачуў я, і слухаўку паклалі.

Вось і ўсё. Ля Каложы п'юць і пакідаюць пасьля сябе пустыя бутэлькі, сп. Іваноў спужаўся ПАГОНІ, а дырэктар Арцем'еў кудысьці зьехаў.

Мо сьметніцы ўсталёўваць?

**Валеры Руселік**

**Ад рэдакцыі:** ***Даводзім да ведама сп.Іванова, што ўзгаданага «президентского указа» не існуе. А Закон РБ «Аб друку ды іншых сродках масавай інфармацыі» (арт 32) замацоўвае права на атрыманьне інфармацыі як у адносінах да грамадзянаў, так і да рэдакцый газэтаў. Паводле закону, кіраўнікі дзяржаўных установаў, арганізацыяў і аб'яднаньняў, іх намесьнікі, работнікі прэс-службаў або іншыя ўпаўнаважаныя на тое асобы ў межах іх кампэтэнцыі АБАВЯЗАНЫЯ прадастаўляць запрошваемую інфармацыю не пазней як праз дзесяць дзён пасьля атрыманьня запыту. Адмова магчымая толькі ў тым выпадку, калі інфармацыя ўтрымлівае зьвесткі, якія складаюць дзяржаўную, камэрцыйную або спэцыяльна ахоўваемую законам тайну(арт. 33).***

# Курсы валют

**На 14 ліпеня Нацыянальны банк Беларусі ўстанавіў наступныя афіцыйныя курсы валют.**

Даляр ЗША — 263.000 беларускіх рублёў. Еўра — 266.432,15. Нямецкая марка — 136.224,60. Расійскі рубель — 10.790. У параўнанні з учарашнім днём афіцыйны курс даляра не змяніўся.

На «чорным» рынку наяўнай валюты ў Менску раніцай 14 ліпеня даляр куплялі па 435.000—440.000 і прадавалі па 445.000—450.000 рублёў. У параўнанні з учарашнім днём курс не змяніўся.

# Адзіны падатак для сельгасвытворцаў

**Прэзідэнт А.Лукашэнка падпісаў дэкрэт «Аб увядзенні адзінага падатку для вытворцаў сельскагаспадарчай прадукцыі».**

Дэкрэтам устанаўліваецца адзіны падатак для беларускіх вытворцаў сельскагаспадарчай прадукцыі; ягоная ўплата замяняе ўплату ўсёй сукупнасці падаткаў, збораў ды іншых абавязковых плацяжоў у бюджэт і пазабюджэтныя формы. Стаўка адзінага падатку ўстанаўліваецца ў памеры 5 працэнтаў ад валавой выручкі. Права перайсці на ўплату адзінага падатку, згодна з дэкрэтам, маюць вытворцы сельгаспрадукцыі, у якіх выручка ад рэалізацыі выробленай імі прадукцыі расліннаводства (акрамя кветак і дэкаратыўных раслін), жывёлагадоўлі (акрамя пушной жывёлагадоўлі), рыбаводства і пчалярства складае не менш як 70 працэнтаў агульнай выручкі за папярэдні фінансавы (бюджэтны) год.

Зноў створаныя вытворцы сельгаспрадукцыі маюць права перайсці на ўплату адзінага падатку пры ўмове падачы адпаведнай заявы і неабходных звестак, вызначаных дэкрэтам. Вытворцы сельгаспрадукцыі, якія пажадалі перайсці на ўплату адзінага падатку, павінны прадставіць адпаведную заяву і неабходныя звесткі ў падатковы орган па месцы ўліку ў якасці плацельшчыка. Падатковы орган не мае права адмовіць вытворцам сельскагаспадарчай прадукцыі ў пераходзе на ўплату адзінага падатку пры выкананні ўсіх умоваў, прадугледжаных дадзеным дэкрэтам, калі іншае не ўстаноўлена заканадаўчымі актамі краіны.

Савету Міністраў краіны даручана ў трохмесячны тэрмін прыняць неабходныя захады па рэалізацыі дадзенага дакумента. Дэкрэт уступае ў сілу праз месяц пасля яго апублікавання, г. зн. 14 жніўня, з'яўляецца часовым і павінен быць прадстаўлены на разгляд Нацыянальнага сходу.

# Чэкі «Маёмасць» будуць жыць яшчэ доўга

**Савет Міністраў Беларусі ўстанавіў новы тэрмін абарачэння імянных прыватызацыйных чэкаў (ІПЧ) «Маёмасць» — да 30 ліпеня 2002 года.**

Нагадаем, што, згодна з першапачатковымім планам, чэкавая прыватызацыя ў краіне павінна была завяршыцца 1 ліпеня 1999 года. У прынятай з гэтай нагоды пастанове Савета Міністраў Міністэрству па кіраванні дзяржаўнай маёмасцю і прыватызацыі, рэспубліканскім органам дзяржаўнага кіравання, аблвыканкамам і Мінгарвыканкаму даручана забяспечыць да 30 ліпеня 2001 года раздзяржаўленне і прыватызацыю дзяржаўных аб'ектаў у аб'ёмах, дастатковых для рэалізацыі нявыкарыстаных чэкаў «маёмасць».

Дакументам устаноўлены таксама тэрмін пагашэння нявыкарыстаных чэкаў «Маёмасць», які працягнецца з 1 ліпеня 2002 па 30 чэрвеня 2004 года. Міндзяржмаёмасці, Дзяржкамітэту па каштоўных паперах, Мінфіну і Мінэканомікі дадзена ўказанне да 1 снежня 2000 года ўнесці на разгляд у Савет Міністраў праект аб парадку пагашэння ІПЧ «Маёмасць».

**Ягор Звоннікаў**

# Матылькі Ўладзіміра Удавічэнкі

**Гэтая калекцыя з 600 матылёў належыць кандыдату медыцынскіх навук Уладзіміру Удавічэнку. Збіральнікам матылькоў ён стаў яшчэ змалку, але пошук працягвае і ў сталым узросце.**

Калі рыхтавалася да друку «Чырвоная Кніга Рэспублікі Беларусь», яе стваральнікі яшчэ не ведалі, што і на Гарадзеншчыне ёсць вельмі рэдкі матылёк - чорны апалон. У ліку першых, хто паведаміў у сталіцу пра гэта, быў У.Удавічэнка. Ён не афішуе сваю калекцыю, але яна даўно прэтэндуе на выставу.

Уладзімір Удавічэнка не стаў прафесійным энтамолагам, ён працуе выкладчыкам на кафедры фармакалогіі Гарадзенскага медыцынскага інстытута; і яму яшчэ належыць абараніць доктарскую дысертацыю. У.Удавічэнка вывучае ўздзеянне выцяжак лекавых раслін на рытмы сэрца. Эксперыменты, якія маюць на мэце вынайсці прэпараты для лячэння арытміі, праводзяцца на пацуках.

**Вад Айдараў**

# Падарункі для 77 лепшых вучняў горада

**У час правядзення агульнашкольных святочных мерапрыемстваў з нагоды заканчэння навучальнага года, упершыню ТБМ і ТБШ горада адзначылі падарункамі гарадзенскіх вучняў, якія выдатна закончылі пачатковую школу на беларускай мове.**

У нашым горадзе ў 11-ці школах, дзе захаваліся чацвёртыя беларускія класы, вучыцца 77 выдатнікаў. Вучні гэтых школаў атрымалі ад прадстаўнікоў Гарадзенскай Рады ТБМ і ТБШ цудоўныя беларускія кнігі і асадкі. На жаль, колькасць беларускіх класаў у горадзе працягвае зніжацца. У Кастрычніцкім раёне праз два гады не будзе каго узнагароджваць, бо не адкрылі ніводнага беларускага класа.

Але, можа, ініцыятараў закрыцця беларускіх класаў стрымае «увекавечанне» ў «шэрай кнізе Беларусі», якая ў г.Менску рыхтуецца да друку.

**Алесь Краеўскі**

# Аляксей Карпюк: «Агідную звычку ненавідзець увесь свет прынеслі да нас камуністы...»

**Сем гадоў таму, 14 ліпеня 1992 года, памёр знаны беларускі пісьменнік Аляксей Карпюк. На яго магіле ў Гродне стаіць мармуровая глыба, адшліфаваная з аднаго боку. Тут змешчаны сціплы факсімільны аўтограф празаіка. Да астатняй часткі помніка скульптар не дакранаўся. Асэнсавана падкрэсліў надзвычайны лёс гэтага чалавека, яго няпросты характар, пакручастыя жыццёвыя шляхі.**

Па вяртанні са шпіталяў двойчы паранены франтавік улетку 1945 года быў залічаны студэнтам Гарадзенскага педагагічнага інстытута.

25-гадовы першакурснік Аляксей Карпюк быў даволі прыкметнай фігурай. Не толькі таму, што прайшоў вайну, узнагароджаны ордэнамі Баявога Чырвонага Сцяга, Айчыннай вайны другой ступені, медалямі. Няўрымслівы па характару, ён не мог збоку назіраць за падзеямі. Заўсёды актыўна далучаўся да ўсіх пачынанняў. Меў арганізатарскія здольнасці. Таму аднагалосна абіраўся ў розныя грамадскія органы.

Што менавіта да англійскага аддзялення факультэта замежных моваў, то тут, відаць, паўплывала некалькі прычынаў. Па-першае, Аляксей добра валодаў нямецкай і польскай мовамі. Па-другое, у адным з лістоў, атрыманых ім яшчэ ў санбаце, гарадзенская знаёмыя дзяўчаты, у прыватнасці Ліза Чапнік, паведамлялі пра сваё жаданне паступіць менавіта на гэты факультэт. Запрашалі сюды пасля мабілізацыі і яго. Нашмат пазней літаратурны крытык Уладзімір Калеснік здзіўлена напіша: «...нават пабеларуску (А.Карпюк - **А.Л.**) гаварыў, падмешваючы польскія і рускія словы і роднелькія дыялекты - такім урадзіўся. Імпанавала ў ім упартая самастойнасць, незалежнасць суджэнняў, ацэнак і паводзін, пацяшала бяскрыўднае дзівацтва».

Яны былі дружбакамі. Разам вучыліся перад вайной ў Навагрудскай беларускай сярэдняй школе, утворанай на базе Беларускай Віленскай гімназіі. Ведалі, хто на што здатны. Чарговым розыгрышам падалася заява Аляксея пра тое, што ён піша аповесць. На несур'ёзнае ўспрыманне наладжвала і назва - «Курыная гісторыя». Помная пасляваенная сустрэча двух будучых, далёка не апошніх беларускіх празаікаў, адбылася напрыканцы 40-х. Падчас працы дырэктарам сямігодкі ў вёсцы Біскупцы Ваўкавыскага раёна Аляксей Карпюк пазнаёміўся з Янкам Брылём.

1950-м годам пазначаны пачатак работы над аповесцю «У адным інстытуце». Праз тры гады малады аўтар з нецярпеннем чакаў паведамлення з часопіса «Полымя», куды даслаў рукапіс. Аповесць надрукавалі ў пятым нумары за 1953 год. Тэлефонны званок у сельскую школу з менскай рэдакцыі быў вызначальным у лёсе настаўніка. Віншаванне з удалым дэбютам акрыляла і надавала сілаў.

Прыстойна ацанілі аповесць і крытыкі. Першым адгукнуўся штотыднёвік «Літаратура і мастацтва». 11 ліпеня 1953 года нехта І.Дуброўскі змясціў рэцэнзію «Першая аповесць» пад рубрыкай «Да рэспубліканскай нарады маладых пісьменнікаў». Было адзначана, што «аўтар засведчыў здольнасці назіраць, улаўліваць, адбіраць характэрнае, тыповае. Умее карыстацца словам».

Адгукнулася і «Звязда». 18 жніўня таго ж года крытык І.Варывончык заўважыў, што ў беларускай літаратуры мала твораў аб жыцці і вучобе студэнтаў. Таму выклікае цікавасць аповесць маладога пісьменніка з Гарадзеншчыны Аляксея Карпюка. Пераказваючы канву твора, аўтар крытычнага артыкула спыняецца на недахопах.

«Гродненская правда» таксама заўважыла твор земляка. П.Уцянаў у верасні 1953 года змясціў рэцэнзію «Першая аповесць маладога пісьменніка». Неблагі ў цэлым водгук не-не дый упікае аўтара ў адсутнасці гарачых спрэчак студэнтаў, адсутнасці паказу працы ў лабараторыях і чытальнай зале - «того, что определяет лицо вузовского коллектива. А ведь священный долг советского студента состоит в том, чтобы отлично учиться».

У інстытуце 12 снежня 1953 года адбылася чытацкая канферэнцыя. Выкладчыкі Л.Храмава, М.Дуброўскі, Б.Асокіна, студэнты Мяненка, Жолудзева, Кулінковіч, Калоша, Прыстаўка адзначылі плюсы і мінусы аповесці. Асабліва было падкрэслена тое, што «совершенно выпала институтская партийная организация, не показана роль комсомольской организации в воспитании студентов».

Праз сорак гадоў, ужо ў нашы дні, Аляксей Нічыпаравіч, даючы апошняе перад смерцю інтэрв'ю гарадзенскім паэтам Дануце Бічэль і Алесю Чобату, прызнаецца:

- Я перапісаў бы «У адным інстытуце». Там гэты падзел - на «нашых» і «кулакоў», бедных і багатых. Я выдумаў іх з савецкай прапаганды... Ёсць там такія акцэнты, за якія сягоння сорамна... Я апраўдваў калектывізацыю. Не расхваляў, але апраўдваў яе, быццам бы гэта непазбежнасць. Не разумеючы, што гэта - смерць мужыку і зямлі.

Усе мы - дзеці свайго пакалення. У Аляксея Карпюка быў свой час, ужо значна аддалены ад нас. У артыкуле «Бачу сябе здаўна...», падрыхтаваным да друку ў 1991 годзе, ён піша: «У дзяцінстве марыў, як уцякаю ў СССР, дабіраюся да самога Сталіна і пра ўсё яму расказваю... Пасля вайны, калі недзе ў 70-я трапіў у Крэмль на пісьменніцкі з'езд, дык пазнаваў усе пакоі і залы, такая ў мяне, малога, была фантазія - нібыта я па знаёмых калідорах і пакоях хадзіў».

13 траўня 1949 года ў інстытуце праходзіла навуковая канферэнцыя, прысвечаная калгаснаму ладу. Прысутнічалі ўсе студэнты і выкладчыкі. Прыводзіліся словы першага сакратара абкама КП(б)Б Сяргея Прытыцкага наконт росту калектыўных гаспадарак. У 1946 годзе іх было ў вобласці ўсяго 38. Праз год - 106. У 1949 годзе - 274. Студэнт другога курса Багдановіч выказаў ініцыятыву: няхай студэнты, дзеці аднаасобнікаў, напішуць бацькам лісты пра неабходнасць уступлення ў калгас. Усе прагаласавалі «за». Аляксей Карпюк у тым ліку.

Ён быў сярод 72 выпускнікоў інстытута. Дзяржаўныя экзамены здаў паспяхова. Старшыня дзяржкамісіі, кандыдат фізіка-матэматычных навук Бяссонаў быў задаволены маладымі спецыялістамі. Уручаючы дыпломы, дырэктар вышэйшай навучальнай установы Уласавец заўважыў, што ў 1945 годзе вучылася ўсяго 68 студэнтаў. У 1949 - амаль 500. Адпаведна было і выкладчыкаў - 11 і 50. Сярод апошніх восем чалавек мелі ступень кандыдатаў навук.

Абласная газета «Гродненская правда» змясціла паласу, прысвечаную трэцяму выпуску пединститута. Пад маленькай нататкай «Спасибо Родине» стаіць подпіс студэнта-выпускніка факультэта замежных моваў Аляксея Карпюка. Ён распавёў пра сваё сялянскае мінулае, падпольны камсамол, удзел у вайне. Дзякуючы калектыву, прафесійна рос, уступіў у партыю Леніна-Сталіна. Атрымаў дыплом настаўніка сярэдняй школы. Будзе несці веды ў вёску, як і яго аднакурснікі М.Бядрыцкая, Б.Ягораў, Г.Жураўская, М.Брыш.

Найбольш значныя падзеі студэнцкага жыцця знайшлі сваё адлюстраванне ў аповесці «У адным інстытуце». Аўтар аддае перавагу дакументальнай аснове, апісвае ўласна перажытае. З часам такая манера стане істотнай для адметнасці Аляксея Нічыпаравіча. Дэталь, трапнае слова, вобраз абавязкова выклікаюць у пісьменніка глыбінныя асацыяцыі. І ён «раскручвае» сюжэт, паглыбляючы характарыстыкі герояў, надаючы ім завершанасць і цэласнасць.

Аляксей Карпюк любіў канкрэтнасць, быў вельмі ашчадны на словы. Але тыя, што заставаліся на паперы, складалі глыбокі сэнс. Нездарма пісьменнік у сталым узросце звярнуўся да блакнотных запісаў, невялікіх навел, кароткіх апавяданняў. Тут заўсёды можна выразна перадаць драматызм сітуацыі. Імклівае разгортванне падзеяў станоўча адбіваецца на раскрыцці вобразаў. Так робіць у сваіх сусветна вядомых аповесцях яшчэ адзін гарадзенец - Васіль Быкаў. Урэшце, яны сябравалі.

**Антон Лабовіч**



**Аляксей Карпюк з унукам. Фота 1986 года**

## Твае дзеці павінны вучыцца па-беларуску!!!

Таварыства беларускай мовы і Таварыства беларускай школы просяць тэлефанаваць усіх бацькоў г.Гродна, якія жадаюць вучыць сваіх дзяцей у падрыхтоўчых і першых класах на беларускай мове.

**Тэл. 47-09-64 (ТБМ і ТБШ г.Гродна) 2-10-54 (пасля 15.00, спытаць Таццяну ці Алеся).**

Спіс школаў, у якіх педкалектыў падрыхтаваны для навучання дзяцей на беларускай мове, а адміністрацыя школ не супраць адкрыцця беларускіх класаў:

**Ленінскі р-н: СШ N21, СШ N32; Кастрычніцкі р-н: СШ N5, СШ N26**

## Вертыкаль не мае патрэбы ў недзяржаўных юрыстах

**Міністэрства адукацыі і Міністэрства юстыцыі 18 чэрвеня 1999 года выдалі загад (396\132) «Аб падрыхтоўцы юрыдычных кадраў у дзяржаўных і недзяржаўных навучальных установах рэспублікі».**

Згодна з загадам, па-першае, з 1999-2000 навучальнага года ўводзіцца забарона на набор абітурыентаў у недзяржаўныя ВНУ для атрымання другой вышэйшай юрыдычнай адукацыі (па скарочаных тэрмінах навучання). Па-другое, адпаведна гэтаму загаду, для дзяржаўных і недзяржаўных навучальных установаў уводзяцца кантрольныя лічбы прыёму абітурыентаў на спецыяльнасці юрыдычнага профілю ў дзяржаўныя і недзяржаўныя навучальныя ўстановы. Такі загад дзяржаўныя чыноўнікі матывуюць тым, што ў Беларусі ўжо дастаткова юрыстаў. Пры гэтым ігнаруецца артыкул 49 Канстытуцыі Беларусі, які замацоўвае правы грамадзянаў рэспублікі на атрыманне вышэйшай адукацыі.

Загад даведзены да навучальных установаў тыдзень таму, калі ў недзяржаўных установах адбылося залічэнне абітурыентаў, якія скончылі падрыхтоўчыя аддзяленні і паспяхова здалі выпускныя іспыты. Зараз у адпаведнасці з загадам Міністэрстваў адукацыі і юстыцыі, кіраўніцтва навучальных установаў мусіць выключаць «лішніх студэнтаў» - лішніх для дзяржавы.

Сістэма ліцэнзавання ў Беларусі - яшчэ адна праява рэанімацыі таталітарызму на Беларусі. Згодна з загадам Міндукацыі ад 30 красавіка 1998 года, «ліцэнзія выдаецца тэрмінам не менш як на пяць гадоў». А на практыцы Міндукацыі выдае ліцэнзію толькі на 6 месяцаў.

Яшчэ адной праявай таталітарызму ў адукацыі выступае абавязковае зацвярджанне дзяржаўнай установай - Міністэрствам адукацыі праграмаў, па якіх вядзецца навучанне ў недзяржаўнай установе.

Каб уявіць маштабы патэнцыйных дзяржаўных рэпрэсіяў, пад страхам якіх знаходзяцца людзі, дастаткова прывесці прыклад толькі адной прыватнай установы. Так, Менскі Недзяржаўны інстытут кіраўніцтва і прадпрымальніцтва мае 180 штатных выкладчыкаў і 4500 студэнтаў.

**Ул. інф.**

## Трыбуна навуковай думкі

**Выйшаў з друку першы нумар штоквартальнага навукова-тэарэтычнага часопіса «Веснік» Гарадзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы.**

Рэктар вышэйшай навучальнай установы, доктар фізіка-матэматычных навук, прафесар Сяргей Маскевіч падкрэсліў, што часопіс будзе канцэнтраваць увагу на распрацоўцы актуальных праблемаў матэматыкі і фізікі, эканомікі і інфарматыкі, хіміі і біялогіі. Гуманітарная тэматыка прадстаўлена такімі раздзеламі, як гісторыя і філасофія, мастацтвазнаўства і культуралогія, права, псіхалогія і педагогіка.

Рэдкалегію склалі вядомыя вучоныя універсітэта. Першы нумар прысвечаны 60-годдзю гэтай навучальнай установы. Юбілейныя ўрачыстасці пройдуць ў 2000 годзе.

**Уладзімір Кавалёў**




### 15 ліпеня

Дзень Грунвальдскай бітвы (1410 г.)

### 16 ліпеня

**120 гады таму** (1879 г.) у вёсцы Ачукевічы (Навагрудскі р-н) нарадзіўся **Васіль Рагуля**, беларускі грамадска-культурны дзеяч, педагог, актыўны ўдзельнік нацыянальна-вызвольнага руху. Памёр у 1955 годзе.

**125 гадоў таму** (1874 г.) памёр **Віктар Гельтман**, дзеяч нацыянальна-вызвольнага руху. Нарадзіўся 23 снежня 1796 года ў вёсцы Вяркавічы Слонімскай губерні (цяпер Камянецкі р-н). Вучыўся ў Свіслацкай гімназіі. У 1819 годзе разам з братам стварыў у гімназіі тайную патрыятычную арганізацыю. Быў удзельнікам паўстання 1830 -1831 гг., пазнейшых вызвольных рухаў у Еўропе. Памёр у Бруселі.

### 19 ліпеня

**80 гадоў таму** (1919 г.) памёр **Юзаф Беркман**, удзельнік вызвольнага паўстання 1863-64 гг., жывапісец. Нарадзіўся 4 жніўня 1838 года ў Валожыне. Скончыў гімназію ў Вільні. Вучыўся ў Маскве і Пецярбургу. Быў арыштаваны за ўдзел у патрыятычнай маніфестацыі. Пасля вызвалення выехаў у Вільню, дзе разам з братамі Далеўскімі рыхтаваў паўстанне. Змагаўся са зброяй у руках на Ашмяншчыне, у тым ліку ў атрадзе Зыгмунта Мінейкі. Паранены ў бai пад вёскай Рудзішкі быў узяты ў палон. Засуджаны да 4-х гадоў катаргі, за спробу ўцячы - яшчэ да 4-х. Пазней жыў у Іркуцку, Ніжнім Ноўгарадзе, Лібаве (Ліепаі), з 1884 года - у Варшаве, дзе і памёр.

**130 гадоў таму** (1869 г.) нарадзіўся **Лявон Вітан-Дубейкаўскі**, дзеяч БНР, паэт, архітэктар. Паходзіў з вёскі Дубейкава (Мсціслаўскі р-н). Вучыўся ў Мсціслаўе, Варшаве, Пецярбургу, Парыжы. Перад першай сусветнай вайной працаваў у Варшаве як архітэктар-будаўнік і выкладчык. У вайну працаваў на Полачыне і ў Арле. Нейкі час жыў у Менску, дзе бываў у «Беларускай хатцы». Быў блізкі да правых колаў беларускага нацыянальнага руху, прадстаўляў інтарэсы БНР у Варшаве. З 1922 года - у Вільні, займаўся архітэктурна-будаўнічай дзейнасцю. Памёр 6 лістапада 1940 года ў Вільні і пахаваны на могілках Роса.

**Падрыхтаваў Ул. Хільмановіч**

# Усебеларускі з'езд 1917 года як зачатак станаўлення палітычнай нацыі беларусаў

**Працяг. Пачатак у №№ 40-42**

Акрамя спрыяння псіхалагічнаму збліжэнню дэлегатаў як выразнікаў волі адзінага народа, афіцыйнае адкрыццё з'езда азначала ўзнікненне інстанцыі, што магла ад імя Беларусі ўступаць у зносіны з органамі ўлады, а таксама звяртацца да міжнароднай супольнасці; апошняе было асабліва важна ў святле маючых пачацца 9 снежня 1917 года брэсцкіх перамоваў. Таму ўрачыстая цырымонія ў Менскім тэатры на схіле дня 7 снежня ўспрымалася некаторымі яе відавочцамі не проста як знак гатоўнасці беларусаў узяць свой лёс у свае рукі, а нават ужо як зараджэнне нацыянальнай дзяржаўнасці. Згаданы карэспандэнт «Дня» М.Вейнрэйх - староннi, незацікаўлены назіральнік - запісаў па гарачых слядах: «Ужо які сціплы народ беларусы, але і яны 7 снежня абвясцілі сваю ўласную беларускую рэспубліку»[64]. А газета «Оршанский вестник» сваёй карэспандэнцыі пра пачатак з'езда дала нечаканы падзагаловак - «Беларуская народная рэспубліка»; гэта было, бадай, ці не першае з'яўленне ў друку такога паняцця[65].

Аднак жа фармальнае прызнанне з'ездам сваёй паўнамоцнасці адбылося галоўным чынам воляю тых дэлегатаў, што прыбылі па выкліку Вялікай Беларускай рады. Яны адлюстроўвалі настроі толькі часткі палітычна актыўнага пласта беларускага жыхарства, якая ішла ў авангардзе працэсу нацыянальнага самасцвярджэння. З'езд павінен быў падключыць да гэтага працэсу самую шматлікую, але і самую інертную частку народа - беларускае сялянства, а таксама дамагчыся лаяльнасці дзеючых у краі беларускіх сіл. Гэтага можна было дасягнуць толькі сумесна з дэлегатамі, што ішлі за Беларускім абласным камітэтам. Таму на наступны дзень, 8 снежня, камітэту ў Петраград была даслана запрашальная тэлеграма. А пакуль пад'язджала асноўная маса яго прыхільнікаў, з'езд устрымліваўся ад прыняцця кардынальных рашэнняў.

9 снежня на аснове прадстаўніцтва ад фракцый, якія пачалі вызначацца на з'ездзе, і ад губернскіх дэлегацый быў выбраны прэзідыум у складзе 15 чалавек, сярод іх: С.Рак-Міхайлоўскі - старшыня; Савіч, У.Фальскі, Калішэвіч і Вярбіцкі - намеснікі старшыні; А.Цвікевіч, Р.Каўшыла, Т.Грыб і Я.Ладноў - сакратары[66]. Ганаровымі старшынямі з'езда дэлегаты выбралі старога рэвалюцыянера-народніка А.Бонч-Асмалоўскага і акдэміка Я.Карскага[67]. Пачалося таксама фармаванне секцый і камісій.

Тым часам атрыманая ў Петраградзе вестка аб адкрыцці Усебеларускага з'езда, мабыць, не на жарт узрушыла сябраў Беларускага абласнога камітэта, і яны праз паўтара-двое сутак ужо былі ў Менску. Ва ўсякім разе, аб гэтым мусіць сведчыць захаваны ў архіве «Пратакол пагаджальнай камісіі прадстаўнікоў Вялікай Беларускай рады і Беларускага абласнога камітэта пры Усерасійскім Савеце сялянскіх дэпутатаў», на якім стаіць дата - 10 снежня 1917 года[68]. Дакумент уяўляе сабою пералік нормаў прадстаўніцтва ад розных арганізацый і ўстановаў. Неабходнасць вярнуцца да гэтага пытання ў ходзе з'езда, калі большасць яго ўдзельнікаў ужо была дэлегавана з месцаў, відаць, паўстала з-за неразбярыхі, выкліканай наяўнасцю двух арганізацыйных цэнтраў і супярэчлівасцю іхніх дырэктываў. Узгодненыя цяпер нормы прадстаўніцтва павінны былі служыць крытэрыем для мандатнай камісіі па наданню дэлегатам права рашаючага ці дарадчага голасу. Часткова гэтыя нормы супадаюць з вызначанымі ў разгледжанай вышэй інструкцыі БАК. Але прыкметныя і адрозненні: істотна пашырылася прадстаўніцтва ад беларускіх адраджэнцкіх арганізацый (БСГ, Беларускай народнай партыі сацыялістаў, Беларускай хрысціянскай дэмакратыі, «нарвенскіх арганізацый беларускіх сацыял-дэмакратаў» і г.д.), а таксама ад арганізацый беларусаў-вайскоўцаў у арміі і на флоце - патэнцыяльных прыхільнікаў ВБР. 14 снежня, калі ў наяўнасці ўжо было шмат дэлегатаў, што ішлі за «абласнікамі», пратакол пагаджальнай камісіі быў вынесены на абмеркаванне з'езда і па пунктах зацверджаны[69]. Яшчэ адну выбоіну на шляху да адзінства ў імя агульнанацыянальных інтарэсаў удалося пераадолець.

Аднак узаемныя крокі насустрач даваліся з велізарнымі цяжкасцямі, непасрэднае судакрананне ў ходзе з'езда дзвюх плыняў беларускага грамадскага руху раз-пораз спараджала іскры вострых канфліктаў. З прыбыццём на з'езд Беларускага абласнога камітэта і яго прыхільнікаў, - канстатаваў Я.Дыла, - «атмасфера ўсё больш згушчалася. Падзеленыя на групы сябры з'езда, кіруемыя сваімі важакамі, варожа адносіліся адзін да аднаго»[70]. Калі верыць пазнейшым (1926 года) нататкам В.Захаркі (увогуле не вельмі дакладным), некаторыя сябры БАК з ліку «непрымірымых» зрабілі практычныя спробы дэзавуяваць папярэднюю работу з'езда, ізаляваць ВБР і захапіць кіраўніцтва форумам у свае рукі; справа нават дайшла да таго, што Беларуская вайсковая рада пастанавіла іх арыштаваць[71]. Некалькі разоў з'езд знаходзіўся на мяжы расколу. Зноў спатрэбіліся прымірэнчыя нарады, пагаджальныя камісіі.

У ходзе кансультацый было вырашана рэарганізаваць кіруючыя органы з'езда, каб у іх атрымалі прадстаўніцтва новыя групы дэлегатаў, што ўвесь час прыбывалі.

14 снежня з'езд выбраў новы прэзідыум, якому прысвойваліся толькі «прадстаўніча-тэхнічна-дзелавыя» функцыі. Старшынёй стаў Я.Серада - «чалавек палітычнага розуму і дыпламатычнай вытрыманасці», як пісаў пра яго адзін з дэлегатаў. «Магчыма, што дзякуючы ягонай пільнасці і разважлівасці праца кангрэсу была даведзеная да пэўных вынікаў»[72]. У прэзідыум увайшлі таксама А.Вазіла і А.Прушынскі (А.Гарун) - намеснікі старшыні, Л.Калядка і А.Шаўчук - сакратары, Т.Гушча і Т.Грыб - памочнікі сакратароў[73].

Для аператыўнага разгляду палітычных пытанняў вырашылі аднавіць Раду старэйшын з'езда (Раду з'езда), якая функцыянавала яшчэ на яго пачатку, але пасля афіцыйнага адкрыцця і выбрання сталага прэзідыуму была скасавана. У новую Раду з'езда ўвайшоў прэзідыум (цалкам) і прадстаўнікі ад розных групаў дэлегатаў і арганізацый: ад сялянскай, земска-гарадской, каапера-тыўна-харчовай групаў, ад групаў вайскоўцаў, чыгуначнікаў, бежанцаў, настаўнікаў, ад БАК, выканкамаў ВБР і ЦБВР, выканаўчай камісіі II беларускага з'езда ў Маскве, Краёвага арганізацыйнага бюро, ад партыйных фракцый на з'ездзе; права прадстаўніцтва ў Радзе з'езда атрымалі таксама дэпутаты Усерасійскага Устаноўчага сходу ад Беларусі[74]. Сфармаваны такім чынам орган налічваў каля 60 чалавек[75]. Па шырыні рэпрэзентаваных у ім інтарэсаў ён адпавядаў самому з'езду, з'яўляўся «як бы Малым з'ездам, органам больш рухавым у практычнай працы»[76]. Гістарычная роля Рады з'езда выйшла далёка за рамкі самога форуму. Паводле словаў К.Езавітава, яе функцыі пашырыліся да агульнанацыянальнага маштабу, яна «зрабілася рэпрэзентацыйнаю ўстановаю для ўсяго беларускага народу», а пасля разгону з'езда «засталася ўжо гатовым і адзіна правадзейным апаратам, які ўзяў на сябе выкананне волі кангрэсу»[77].

14 снежня Усебеларускі з'езд у асноўным вырашыў уласныя арганізацыйныя пытанні, каб цалкам перайсці да палітычных і сацыяльных праблемаў. У такім сэнсе гэты дзень - яшчэ адзін рубеж у драматычнай эпапеі з'езда, чарговы крок да агульнанацыянальнага паразумення. Аднак ні 14-га, ні на наступны дзень - 15 снежня, калі надышоў тэрмін адкрыцця з'езда паводле ўстаноўкі Беларускага абласнога камітэта, - ніякіх парадных акцый на форуме крыніцамі не зафіксавана.

Тым часам на гэтыя дні прыпадае самы інтэнсіўны прыезд яго ўдзельнікаў. «Дэлегаты на Усебеларускі з'езд у Менску працягваюць штодзённа прыбываць у вялікай колькасці. З'ехалася ўжо больш за 1000 дэлегатаў», - паведамляла 16 снежня 1917 года газета «Социалистический революционер». Паводле дадзеных Я.Канчара, к гэтаму часу з'явіліся 1915 чалавек, у тым ліку з правам рашаючага голасу 1175, дарадчага - 740[78]. Зрэшты, у іншых месцах Я.Канчар сцвярджае, што ў з'ездзе ўдзельнічала ад 1500 да 1800 чалавек[79].

Адносна агульнай колькасці дэлегатаў найбольшага даверу, безумоўна, заслугоўваюць звесткі, што зыходзяць ад П.Крачэўскага - старшыні мандатнай камісіі з'езда, А.Прушынскага (А.Гаруна) - намесніка старшыні з'езда і Т.Грыба - памочніка сакратара. Паводле іх дадзеных, з 5 па 17 снежня мандатная камісія выдала 1872 мандаты, у тым ліку 1167 - з правам рашаючага голасу і 705 - з правам дарадчага[80]. Такімі ж лічбамі аперыраваў у 1918 годзе Народны сакратарыят Беларусі ў афіцыйнай перапісцы[81]. Яны замацаваліся ў гістарычнай літаратуры як агульнапрызнаныя.

1156 дэлегатаў (812 з рашаючым голасам і 344 - з дарадчым), гэта значыць каля 2/3 ад агульнага складу з'езда, былі людзьмі цывільнымі; 716 мандатаў (355 - з рашаючым, 361 - з дарадчым голасам), г.зн. больш за 1/3 ад агульнай колькасці, належала вайскоўцам. Вядома таксама, што 455 чалавек з ліку дэлегатаў з рашаючым голасам былі накіраваныя органамі мясцовага самакіравання (паводле звестак Народнага камісарыята Беларусі, на з'ездзе была прадстаўлена большасць валасных, павятовых і губернскіх земстваў і частка гарадскіх думаў[82]), 367 - партыямі, прафсаюзамі ды іншымі грамадскімі арганізацыямі[83].

Пры ўсёй скрупулёзнасці гэтых лічбаў варта адзначыць іх пэўную ўмоўнасць, паколькі яны адлюстроўваюць менавіта колькасць выдадзеных мандатаў. У рэальнасці склад з'езда бесперапынна мяняўся. З аднаго боку, да самага апошняга дня прыбывалі новыя групы дэлегатаў, а з другога - не ўсе яны старанна наведвалі пасяджэнні, некаторыя, асабліва сяляне, гатовы былі дачасна пакінуць з'езд[84].

Для высвятлення сацыяльна-палітычнага аблічча з'езда Вялікая Беларуская рада распаўсюджвала сярод дэлегатаў анкету, якая ўключала 17 пытанняў (узрост, род заняткаў, адукацыя, партыйнасць, веравызнанне ды інш.); некалькі незапоўненых бланкаў анкеты захавалася ў архіве[85]. Частка запоўненых анкет была знішчана бальшавікамі пры пагроме ў памяшканні ВБР у ноч на 19 снежня 1917 года, астатняя частка (больш за тры з паловай сотні) засталася ў П.Крачэўскага. Апублікаваную ім інфармацыю аб 375 дэлегатах, што далі адказ на пытанне аб сваім сацыяльным становішчы, можна паказаць у **выглядзе табліцы 1**

**Табліца 1**

| Сацыяльныя катэгорыі | | Колькасць рэспандэнтаў | | Удзельная вага |
|---|---|---|---|---|
| Сацыяльныя нізы | Салдаты і матросы | 149 | | |
| | Сяляне | 101 | 295 | 78,7% |
| | Бежынцы-сяляне | 29 | | |
| | Рабочыя | 16 | | |
| Інтэлігенцыя | Настаўнікі | 38 | | |
| | Іншыя інтэлігенты | 29 | 67 | 17,9% |
| | Афіцэры і генерал | 12 | | 3,2% |
| | Гандляр | 1 | | 0,2% |
| | Усяго | 375 | | 100% |

Крыніца: Беларускі шлях. 1918. 22 крас. Падлікі мае. - **С.Р.**

Як бачым, абсалютная большасць рэспандэнтаў - звыш трох чвэртак - належала да сацыяльных нізоў, астатнія (за адзінкавымі выключэннямі) рэпрэзентавалі сярэднія пласты грамадства.

Сярод 357 дэлегатаў, якія адказвалі на пытанне пра ўзрост, вылучаюцца наступныя групы. **Гл. табліцу 2.**

Крыніца: Беларускі шлях. 1918. 22 крас. (Падлікі мае. - **С.Р.**)

**Табліца 2**

| Узроставыя групы | Колькасць рэспандэнтаў | | Удзельная вага | |
|---|---|---|---|---|
| 19-20 гадоў | 11 | | 3,1% | 27,2% |
| 20-25 | 86 | 97 | 24,1% | |
| 25-30 | 106 | | 29,7% | |
| 30-40 | 123 | 256 | 34,5% | 71,7% |
| 40-50 | 27 | | 7,5% | |
| Старэй за 50 гадоў | 4 | | 1,1% | |
| Усяго | 357 | | 100% | |

Такім чынам, пераважная большасць рэспандэнтаў (71,7%) былі людзьмі сярэдняга, найбольш свядомага і грамадска актыўнага ўзросту - 25-50 гадоў, а разам з моладдзю да 25 гадоў (27,2%) яны складалі 98,9%.

З пэўнай доляй умоўнасці атрыманую карціну можна экстрапаліраваць на ўвесь склад дэлегатаў, бо яна ў цэлым супадае з візуальнымі ўражаннямі ўдзельнікаў і відавочцаў з'езда. Той жа П.Крачэўскі пісаў у 1918 годзе: «...На Усебеларускім з'ездзе прадстаўніком быў сам беларускі народ: сяляне, салдаты і група інтэлігенцыі, што засталася вернай народу[86]». Такую думку ён паўтарыў і пазней: «Гэта была сялянская, рабочая і салдацкая маса беларускага народа...»[87] Я.Канчар сцвярджаў, што вядучую ролю на з'ездзе адыгрывалі «прадстаўнікі дэмакратычных, дзелавых, дзяржаўных установаў», якія валодалі «ведамі, вопытам і станоўчай устойлівасцю», але ў колькасных адносінах пераважалі «салдаты, сяляне і рабочыя»[88]. А.Цвікевіч падкрэсліваў менавіта сялянскае паходжанне большасці дэлегатаў: «Паводле саслоўнай адзнакі з'езд можна беспамылкова лічыць сялянскім»[89]. З Цвікевічам згаджаўся В.Захарка: «У пераважаючай большасці сваёй кангрэс быў сялянскі, нягледзячы на шырокае на ім прадстаўніцтва мястэчак і гарадоў, вайсковых арганізацый, рабочых, кааперацыйных, сацыялістычных партый ды іншых арганізацый»[90]. Яшчэ адзін удзельнік з'езда сведчыў: «Дэлегаты кангрэсу сваім складам абыймалі ўсе пласты жыхарства Беларусі: сялянства, работнікаў, службоўцаў, уцекачоў, а асабліва шмат было вайскоўцаў. У складзе вайскоўцаў пераважала моладзь»[91]. Нарэшце - назіранне К.Езавітава: «Цывільныя вопраткі нашае інтэлігенцыі, мундзіры афіцэраў, світкі сялянаў, курткі работнікаў і гімнасцёркі стральцоў рэпрэзентавалі ўсе станы беларускага народу...»[92] Паказальна, што з апошнім сведчаннем амаль даслоўна супадае ўспамін пабочнага назіральніка - салдата П.Карэткі (у запісе А.Баршчэўскага, 1965 г.): «Гэтыя дэлегаты былі вельмі розным народам. Ішлі і панкі ў капелюшах, і вайскоўцы, і, відно, рабочыя. Ішлі таксама мужыкі з торбачкамі за плячыма. Некаторыя нават былі ў пасталах»[93].

Аналіз крыніц пераконвае, што склад дэлегатаў Усебеларускага з'езда дастаткова адэкватна адлюстроўваў тагачасную структуру і стан пачынаючага ўсведамляць сябе нацыяй беларускага соцыуму - у падаўляючай большасці сялянскага, значнай часткай сараванага войною з наседжаных месцаў (бежанцы) і вымушанага кінуць у яе пашчу свае самыя жыццяздольныя, маладыя парасткі (вайскоўцы).

Да гэтага трэба дадаць паўнату прадстаўніцтва насельніцтва Беларусі ў тэрытарыяльным разрэзе: на з'ездзе быў рэпрэзентаваны ўвесь беларускі этнічны абшар, у тым ліку - у асобе бежанцаў - акупаваная немцамі заходняя частка. Падцвярджэнне гэтаму -утвораныя дэлегатамі зямляцтвы: Менскае, Магілёўскае, Віцебскае, Віленскае, Гарадзенскае і Смаленскае[94]. Зямляцтвы адыгралі станоўчую ролю ў тым сэнсе, што спрыялі пераадоленню палітычных рознагалоссяў: паводле сведчання М.Касцевіча, «у іх сыходзіліся і так званыя левыя, і правыя і пераконваліся, што яны не маюць за што сварыцца»[95]. З другога боку, групоўка дэлегатаў па зямляцкай, рэгіянальнай прыкмеце, выстаўленне часам на першы план правінцыйных інтарэсаў паказвала на невыразнае ўсведамленне інтарэсаў агульнанацыянальных, што было адзнакай незавершанасці працэсу нацыянальнай кансалідацыі.

У савецкія часы пільную ўвагу даследчыкаў прыцягвала пытанне аб партыйнай прыналежнасці дэлегатаў, палітычнай дыферэнцыяцыі на з'ездзе. Прааналізаваўшы існуючыя фрагментарныя звесткі (у прыватнасці, дадзеныя П.Крачэўскага), І.М.Ігнаценка і В.А.Круталевіч прыйшлі да слушнай высновы, што большасць дэлегатаў належалі або спачувалі агульнарасійскім і беларускім неаднародніцкім партыям (эсэры, народныя сацыялісты, БСГ)[96]. Эсэраўская афарбоўка з'езда была, зрэшты, заўважана яшчэ А.Цвікевічам[97]. Разам з тым значная частка дэлегатаў знаходзілася пад уплывам бальшавікоў - факт, які прызнаваўся В.Г.Кнорыным[98], А.Р.Чарвяковым[99], але ў цэлым савецкай гістарыяграфіяй затушоўваўся, бо інакш цяжка было апраўдаць разгон з'езда заходнефрантавымі бальшавікамі. Партыйна-палітычная арыентацыя большасці дэлегатаў цалкам адпавядала пануючым настроям ва ўздыбленым рэвалюцыяй грамадстве з яго павальнай захопленасцю сацыялістычнай ідэяй (у той або іншай інтэрпрэтацыі). Кансерватыўная плынь на з'ездзе не заявіла пра сябе наогул, а галасы асобных лібералаў (Валковіч, ксёндз В.Гадлеўскі) патаналі ў хоры радыкалаў і сацыялістаў.

**Станіслаў Рудовіч**

**Працяг будзе**

[64] Вейнрейх М. Указ. соч.//День. 1917. 28 дек.
[65] Белорусский съезд: Белорусская народная республика//Оршанский вестник. 1917. 14 дек.
[66] БГЧ. 1993. N2. С.52.
[67] Там жа. С.48; N3. С.62.
[68] НА РБ, ф.325, воп.1, спр.8, арк. 106. На жаль, пратакол не падпісаны; ён з'яўляецца ці то чарнавіком, ці то незавeранай копіяй.
[69] БГЧ. 1993. N3. С.62, 64-66.
[70] Там жа. N3. С.63.
[71] Захарка В. Назв. тв.//Спадчына. 1997. N5. С.10-11.
[72] А.В.Усебеларускі кангрэс у Менску, 18-31 (5-18 стст.)снежня 1917 г. (Успаміны дэлегата кангрэсу)//Запісы. Кн.3. Мюнхен, 1967. С.145.
[73] БГЧ. 1993. N3. С.64.
[74] БГЧ. 1993. N3. С.64.
[75] НА РБ, ф.325, воп. 1, спр. 6, арк. 23; ф. 458, воп.1, спр. 22, арк. 2; Социалист-революционер. 1917. 16 дек.; Канчер Е.С. Из истории...//Неман. 1993. N1, С.152.
[76] Краўцоў М. Усебеларускі з'езд 1917 г.//Наша Ніва. 1997. 20 кастр.
[77] Езавітаў К. Назв. тв.//Беларуская мінуўшчына. 1993. N1. С.28.
[78] Канчер Е.С. Из истории...//Неман. 1993. N1, С.152.; Он же. Белорусский вопрос. С.67.
[79] Канчер Е.С. Из истории...//Неман. 1993. N1, С.142.; Он же. Белорусский вопрос. С. 51.
[80] Кречевский П. Состав I Всебелорусского съезда//Белорусская рада. 1918. 4 (17) янв.; Он же. Кто был на I Всебелорусском съезде//Варта. 1918. N1. С.34-35; Н{авадворск}і А. З цяжкім возам па гнілой грэблі//Беларусі шлях. 1918. 16 крас.; Ён жа. Беларускі кангрэс (матэрыялы і дакументы)// Там жа. 1918. 22 крас.; Грыб Т. Дзесятыя ўгодкі Беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў/ /Бюлетэнь заграніčнай групы Бел. партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў. 1928. N9. С.59.
[81] НА РБ, ф. 325, воп. 1, спр. 21, акр. 102, адв., 109-111.
[82] Там жа, арк. 102, адв.
[83] Беларускі шлях. 1918. 22 крас.
[84] БГЧ. 1993. N3. С.61, 63; N4. С. 54; Краўцоў М. 20 гадоў назад//Спадчына. 1996. N1. С.192.
[85] НА РБ, ф. 325, воп. 1, спр. 1, арк. 8-14, 23.
[86] Кречевский П. Кто был на I Всебелорусском съезде//Варта. 1918. N1. С.34.
[87] Ён жа. Беларусь у мінулым і сучасным//Замежная Беларусь. Кн. 1. С.52.
[88] Канчер Е.С. Белорусский вопрос. С.51,67.
[89] Цвикевич А. Краткий очерк возникновения Белорусской Народной Республики. С.9.
[90] Захарка В. Назв. тв.//Спадчына. 1997. N5. С.12.
[91] А.В.Усебеларускі кангрэс у Менску...//Запісы. Кн. 3. С.145.
[92] Езавітаў К. Назв. тв.//Беларуская мінуўшчына. 1993. N1. С. 25.
[93] Баршчэўскі А. Малая і вялікая айчына ва ўспрыняцці беларусаў з Усходняе Беласточчыны/ /Беларусіка-Albaruthenika 6. Ч. 1. С.302.
[94] БГЧ. 1993. N3. С.61; N4. С.52; Минская газета. 1917. 13 дек.; Из истории...//Неман. 1993. N1, С.152.
[95] Крайцоў М. Усебеларускі з'езд 1917 г.//Наша Ніва. 1997. 20 кастр.
[96] Игнатенко И.М. Беднейшее крестьянство... С.360; Круталевич В.А. Указ. соч. С.127-128.
[97] Цвикевич А. Краткий очерк возникновения Белорусской Народной Республики. С.9.
[98] Кнорын В. Камуністычная партыя на Беларусі/ /Беларусь: Нарысы гісторыі, культуры і рэвалюцыйнага руху. Мн., 1924. С.218.
[99] Чарвякоў А. За Савецкую Беларусь. Мн., 1927. С.44.

